© PDF: Kamunikat.org 2023 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2023




## КУР'ЁЗЫ

### Цяжкае членства

У статуце таварыства па ахове жывёлы г. Балін (Бельгія) гаворыцца: «Кожны член таварыства павінен штомесяц тры гадзіны праводзіць у запрэжцы на ворыве, каб мець уяўленне, якую працу адбываюць штодзённыя цягавыя жывёліны».

### Немец у Японіі

Акцёр заходненямецкага тэлебачання Юрген Роланд у часе экскурсіі па Японіі зайшоў у магазін, каб купіць замок-маланку для курткі. Не ведаючы мовы, ён спрабаваў вытлумачыцца з прадаўшчыком жэстамі. Некалькі рухаў рукой ад жывата і назад прадаўшчык расцаніў вельмі своеасабліва: разумеючы ўсміхнуўшыся, ён вылажыў на прылавак... меч для харакіры.

### НАД РАКОЙ

Адзін селянін ішоў берагам ракі і ўбачыў, што ў рацэ топіцца чалавек. Чым хутчэй скочыў ён у раку і выратаваў небараку.

— Дзякую, — сказаў той, — што ты мяне выратаваў ад смерці.

— Э, гэта глупства, — адказаў селянін.

Прыслаў

**Мікалай Валосік**

### ГУТАРКА

Сын: Тата, дай мне на кіно.

Бацька: Добра, толькі адкажы на адно пытанне. Скажы, сынок, колькі на той вішні лісцяў?

Сын: 563.

Бацька: Адкуль ты ведаеш?

Сын: Я ж меў адказаць толькі на адно пытанне.

Прыслала **Оля Кендысь**

### ЗАПЫТАЎ

— Чаму ў казы халоднае малако? — пытае сын бацьку.

— Таму, што ў яе хвост дагары задзерты, — адказаў бацька.

Прыслаў **Янка Ігнацюк**



### ПРЫНЁС

Янка, ідучы з бацькам на прагулку, спытаў:

— Мама, адкуль я ўзяўся?

— Цябе бусел прынёс, — адказала маці.

— А бацьку хто прынёс?

— Бацьку таксама прынёс бусел.

— Прынёс, але мусіць не адразу, — сказаў Янка.

Прыслаў **Андрэй Жаркі**

## МАРНАТРАЎСТВА

У правінцыянальным гарадку стары жмінда купіў на базары два латарэйныя білеты і па аднаму з іх выйграў аўтамабіль.

Ён заставаўся, аднак, па свайму звычаю, нездаволеным.

— Ну, што яшчэ, няўжо вы не рады выйгрышу? — спытаў яго хтосьці.

— Рады то я рады, — буркнуў той, — але ніколі не дарую сабе, навошта я купіў другі білет.









**Прыемная нечаканасць**

## БАРАНОЙ па ПУСТАЗЕЛЛІ

Як назваць такога муляра, які пабудуе печ, а аб коміне забудзецца?

— Партач! — скажаце. Правільна.

Менавіта такія схільнасці мае МПРБ у Гайнаўцы.

Тры месяцы таму назад гэтае шаноўнае прадпрыемства праводзіла рамонт дома ў Гайнаўцы пры Варшаўскай вуліцы, 31 нумар. Рамонт праведзена нядрэнна, і ўсё было б добра, каб не электрычнае святло. Забыліся майстры аб ім.

А зрэшты, навошта майстрам электрычнае святло? Яны ж працуюць удзень, калі сонца свеціць. Ім відна. Затое жыхары дома нумар 31 (жыве тут 6 сем'яў) ходзяць упоцемках. Кажуць, што лучыны ў Гайнаўцы не бракуе (пад бокам пушча), а ўсё ж не зусім выгадна асвятляць ёю памяшканне.

Інтэрвенцыя жыхароў дома нумар 31 у прэзідыуме Гайнаўскай МРН таксама не дае рэзультатаў.

— Няма ў нас адпаведнага спецыяліста, які б мог выканаць план інсталяцыі электрычнай у доме.

Вось цікава. У Гайнаўцы будуюцца цэлыя кварталы прыгожых жыллёвых будынкаў (з навейшай электрычнай інсталяцыяй!) а ў звычайны, невялікі будынак, ніхто не ўмее правесці электрычнага святла.

Неяк цяжка ў гэта паверыць, калі жывеш у другой палове XX стагоддзя.

### НЕ ЗРАЗУМЕЎ

— Гэтай курыцы найменш год пятнаццаць, суседзіку. Да чаго ж яна цвёрдая!

— Па чым жа ты даведаўся аб яе ўзросце?

— Па зубах.

— Што ты вярзеш, у курыцы няма зубоў.

— У курыцы, зразумела, няма, затое ў мяне яны ёсць.

Прыслаў **Ян Чэрняк**

## ПРЫЗНАЛІ

Ну, Пеўня проста не пазнаць —
Так стаў ён грэбень задзіраць.
Яго чубатка з гусаком
Прызналі знатным спеваком.

**ПАВЕЛ ШЫБУТ**

* * *

## ЧЫНОЎНАЯ ПРЫГАЖУНЯ

Прыёмны дзень. Прыёмная
Народам зранку поўная.
Начальнік за сцяною дзесь
У справах, пэўна, тоне ўвесь.
Але не з ім спаткання
Шукаю ў гэта ранне:
Як на заранку яркую,
Гляджу на сакратарку я.
Яна ж, надзея светлая,
Глядзіць на ўсіх няветліва.
— З якімі вы пытаннямі!?
— З пачуццямі, з каханнем я...
— Любоў — не наша функцыя!
Не згодзен з ёю ў думцы я
Дамоў іду, бядуючы.
Бядуючы, шкадуючы.
Шкада яе чароўную,
Але, на жаль, чыноўную.

**СЯМЁН ПАЦЁМКІН**




**Без слоў**

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ ЧЫТАЧОЎ

Дарагая «Ніва! Прашу змясціць у нейкім са сваіх нумароў песню, з якой толькі памятаю словы «Ожидаю свидания з табой, но я первого шага не сделаю». Я яе чуў ад дзяўчат з Беластока. Яна мне вельмі спадабалася.

**Мікалай Матвеюк**
Лапухоўка, Гайнаўскі павет

## Ожидаю свидания с тобой

Словы С. Смірнова Музыка Б. Макраусава

Ты обычно всегда в стороне,
Но глаза твои ясные светятся.
Говорят они ласково мне,
Что со мною желаешь ты встретиться.

Сорвала я цветок полевой,
Приколола на кофточку белую,
Ожидаю свидания с тобой,
Только первого шага не сделаю.

Значит, нужно тебе подойти,
Самому обо свем позаботиться.
А не то разойдутся пути,
И любовь улетит — не воротится.

Не теряй же минут дорогих,
Назначай поскорее свидание.
Ты учти, что немало других
На меня обращают внимание.

## АРЦЕЛЬ

Бывае ў сне, душа чалавека пакідае тленнае цела і пускаецца ў самастойнае падарожжа, не карыстаючыся паслугамі Орбісу.

На Млечным шляху ў Рай сустракаюцца душы-падарожніцы і, памахваючы крыльцамі, вядуць гутаркі, як мы ў цягніку. Кожная душа намагаецца загадзя дазнацца, якія там у Раі парадкі. Ці існуе жыллёвы крызіс, якія ўмовы прапіскі на жыхарства, ці няма сырасці, шкоднай для людзей з рэўматызмам, і іншае ў гэтым духу.

Атрымаўшы ў час сну падобныя звесткі, людзі маглі б падрыхтавацца да перасялення ў райскую дэмакратычную вобласць. Дэмакратычную таму, што няма там бедных і багатых, няма сялян і гараджан, няма службовых асоб і падуладных, і жыхары ходзяць голыя, так што ў кішэню нічога не схаваеш.

Зразумела, даведаўшыся ўсяго ў Раі, душы ляцяць за падобнымі інфармацыямі ў Пекла, таму што невядома нам, куды хто якую пуцёўку дастане.

Прыляцела спазніўшаяся душа ў Пекла, а там чарга ўецца абаранкам, як у нас пры касе ў час выступлення іншаземных артыстаў. Перад чаргой вывешка: «Кааператыў — Бытавая арцель «Пекла».

Паглядзела спазніўшаяся душа на чаргу (да раніцы тут не справішся) і бачыць убаку неонавы шыльд «Пекла». Перад гэтым шыльдам жывой душы няма.

Накіравалася была душа да пякельных варот, але нехта са знаёмых у чарзе крычыць ёй:

— Пазвольце да мяне на мінутку!

Падляцела душа да знаёмай, а тая пытае:

— Куды спяшаеш, бедная?

— Тут чарга на вярсту з гакам, — адказвае душа, — а пад неонавым шыльдам пуста, бы ў нас на канцэрце сімфанічнага аркестра.

— Станавіся ў чаргу і не мудрагель, — гаворыць знаёмая. — Справу разумець трэба. Там цябе схопяць без чаргі і ў кіпячы кацёл усадзяць. Тым часам тут, як у арцелі, спачатку анкету спішуць, потым дату вызначаць, калі паслуга мае быць выканана. Пара падыдзе і зноў затрымка выйдзе. То дроў не хапіла, то смала скончылася, або кацёл працякае, і ў рамонт яго аддалі. Заўсёды перадышка ёсць. Так што, мілая, станавіся ў хвост і баста.

Зразумела, чытачы могуць спытаць, з якой мэтай расказваю гэту гісторыю.

Людзі мілыя, мы часта скардзімся на чэргі, маўляў, час займаюць, абслужваюць павалу і рознае такое. Па-мойму карысней у чарзе пастаяць, чым без чаргі ўліпнуць у непрыемнасці. Як хто, а я рашуча галасую за кааперацыю. Хоць мой касцюм быў месяц у хімічнай чыстцы (там таксама як у пекле шмат чаго не хапала для чысткі), але затое хаджу цяпер у гэтым касцюме, бы ў новым.

*Дзядзька Лявонь*

© PDF: Kamunikat.org 2023 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2023